Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 221 (234) 14 лістапада 1991 г. Чацвер. ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ. Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты, Аргументы, Комментарии, Суждения

### Тепло из Италии

**ЖЛОБИН. После урезанных рабочих недель вновь на полную мощность заработала фабрика искусственного меха.**

Помогли местным меховщикам итальянцы, поставившие первые 100 тонн волокна под названием «леокрил». Из него на фабрике стали выпускать утеплитель для зимней обуви.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Армия. Вольнонаемный беспросвет

**Бессрочную забастовку объявили рабочие Пинской квартирно-эксплуатационной части.**

Основные требования — поднять зарплату хотя бы до уровня коммунальников города. Выполняющие практически те же работы, вольнонаемные сотрудники КЭЧ получают в среднем всего лишь 200 рублей в месяц. Накануне по аналогичной причине бастовала Брестская КЭЧ...

### Лучше рожать, чем болеть

**Любопытные цифры обнародовал заведующий горздравотделом Барановичей.**

В 1990 году в местном роддоме появилось на свет 2035 малышей, на 210 меньше, чем годом раньше. Число искусственных прерываний беременности сравнялось с количеством родов. В то же время осложнилось положение с венерическими заболеваниями. Целый ряд лет город был кристально чист в плане сифилиса. В нынешнем же году уже диагностировано 62 больных сифилисом и 218 — гонореей.

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Этот «Голос» вам не знаком?

**На Гостелерадио Беларуси подписан приказ о создании экспериментально-творческого объединения информационного вещания, с которого, надеемся, и начнется альтернативная телевизионная служба информации.**

— Почти два месяца боролись за это, — рассказывает старший редактор Светлана Иванова, член инициативного комитета. — Как мы себе представляем свою программу? Это будет не только альтернативная, но, прежде всего, объективная сиюминутная информация, далекая от тех закостенелых форм, в которых увязло Белорусское телевидение...

15 декабря — дебют ежедневного информационного выпуска, уже определено время выхода в эфир — 21.45, условное его название — «Голос». Кроме того, экспериментально-творческое объединение будет готовить еженедельное 45-минутное телеприложение.

**(«Агентство «БелаПАН»).**

### Профсоюзы требуют карточки. Но гласно

**Введение свободных цен в республике может привести к социальному взрыву, — считают Советы профсоюзов работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, радиоэлектронной промышленности Беларуси.**

В своем заявлении Верховному Совету и правительству республики они выдвигают целый ряд требований. Фиксированные цены необходимо сохранить на продовольственные товары повседневного спроса, рассмотреть вопрос целесообразности введения карточек на эти продукты. Важно также определить новые размеры пенсий, пособий, стипендий. Что же касается тех, кто работает на предприятиях, в организациях, учреждениях, заработная плата у них должна расти пропорционально ценам.

Подобные мероприятия по защите граждан республики от резкого падения жизненного уровня следует проводить гласно и открыто, не как в апреле, — считают профсоюзы.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### Вкратце

✦ Беларусь и Кыргызстан теперь смогут получать юридические консультации в нью-йоркской фирме «Пол, Уайсе, Рифкинд, Уортон энд Гаррисон», с которой они заключили контракт.

✦ В Молдове прекращено финансирование предприятий союзного подчинения.

✦ Пионерская организация Узбекистана прекращает свое существование. Ее ликвидацию призван узаконить последний слет, проходящий в Ташкенте.

✦ В память жертв незаконных репрессий тридцатых годов открыт в Ярославле мемориальный комплекс на Леонтьевском кладбище.

### Золото России

**Якутская-Саха ССР возобновила поставки в Москву добываемых в республике алмазов и золота.**

Они предназначены уже России, а не распавшемуся Союзу. С сентября, когда отгрузка валютного сырья была приостановлена, в Якутии скопилось около 5 тонн золота.

**(РИА).**

### И пусть я умру на площади

**Утром 13 ноября спешивших на заседание сессии Верховного Совета Беларуси депутатов встречал человек с плакатом следующего содержания: «Четыре года терплю издевательства властей. В знак протеста обрекаю себя на самоуничтожение».**

Отчаянным пикетчиком оказался бывший инженер Туровского леспромхоза Житковичского района Вячеслав Яковчик. Четыре года назад Вячеслав (по его словам) публично заявил о недостатках и злоупотреблениях в леспромхозе, и как результат—увольнение по тридцать третьей статье КЗоТ. С тех пор безработный Яковчик в поисках справедливости обошел немало высоких государственных и партийных инстанций, но все тщетно.

И вот сейчас он предпринял последнюю попытку добиться своего—решил обратиться к сессии Верховного Совета республики с требованием рассмотреть его дело. В случае отказа парламентариев Вячеслав Яковчик грозится умереть от голода и холода на площади, прямо у Дома правительства.

**Николай ДЕБЁЛО.**

### Поехали к рынку

**Как нам стало известно, работникам Бобруйского завода крупногабаритных шин предоставлена уникальная льгота.**

Администрация разработала положение, по которому те, кто проработал на этом предприятии не менее 15 лет, получили право на приобретение 2 шин. Тем же, у кого еще есть и автомобиль, «светит» аж 4 колеса.

Кстати, на «толкучке» нынче шина стоит 900 рублей, что почти в четыре раза выше государственной цены.

### Посмотри и помоги

**МОГИЛЕВ. 12-тонный автофургон известной фирмы «Ман» с медицинским оборудованием, медикаментами, питанием, одеждой и бытовой техникой прибыл в областной центр из Потсдама.**

В составе делегации—бургомистр этого города, работники здравоохранения. В ходе визита они посетят медицинские учреждения Могилева, дом престарелых.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Сияет имя сквозь века



**В Белорусской государственной филармонии состоялся концерт мастеров искусств Азербайджанской республики, посвященный 850-летию со времени рождения великого азербайджанского поэта Низами Гянджеви.**

**Фото Я. ХАЛИЛОВА (БелТА).**

### Монолитные цены

**Суровый ответ на прекращение Минфином СССР компенсации повышения цен на драгоценные металлы дало витебское ПО «Монолит». Прекращена отгрузка конденсаторов многочисленным предприятиям страны, выпускающим электронную аппаратуру, в том числе радиоприемники и телевизоры.**

Монолитовцев можно понять. Себестоимость поднялась, а цены остались прежними, фиксированными. Кому охота работать себе в убыток? Объединение поставило вопрос ребром. Либо ему разрешают ввести свободные цены на конденсаторы, либо до конца года возмещают удорожание драгоценного сырья. Если же Минфин СССР не согласится с ультиматумом, производственное объединение снимет с себя договорные обязательства перед заводами-потребителями, а их более 1,5 тысячи...

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Варят «котелки». И едут в Финляндию

**ТАЛЛИНН. Около десяти тысяч строителей, медсестер, поваров выехали в последнее время на заработки из Эстонии в соседние страны.**

По оценкам советника по вопросам занятости Министерства социального развития республики Яана Теддера, примерно 5 тысяч квалифицированных рабочих эмигрируют в нынешнем году в Финляндию. В основном это специалисты в возрасте 25—44 лет.

**(РИА)**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

---

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## «Хлебаедаў прыбаўляецца, а землябробы выміраюць...» — ГЭТЫ СКАЗ АНТОНУ ЮНЦЭВІЧУ РАІЛІ ВЫКРАСЛІЦЬ

Даўно ведаю Антона Юнцэвіча, старшыню калгаса са Стаўбцоўшчыны. Ён не толькі таленавіты гаспадарнік, але і няўрымслівы палітык. Так, ён удзельнічаў кандыдатам у выбарах у народныя дэпутаты СССР. Прайграў, але, бадай, толькі з-за недарэчнасцей заканадаўства. Спрабаваў стаць народным дэпутатам рэспублікі — таксама не атрымалася... Але паколькі яго вабілі не мандаты, а патрэбнасць актыўна ўздзейнічаць на жыццё, то ён па-ранейшаму змагаецца за справядлівасць у адносінах дзяржавы да сялян.

У аўторак вечарам гэты чалавек падняўся на трыбуну ў зале вышэйшага органа ўлады. Той-сёй спрабаваў адгаварыць Юнцэвіча ад выступлення, маўляў, не той момант, адсутнічае Станіслаў Шушкевіч, хочацца ж, каб ён у першую чаргу адчуў боль вёскі. Не, адказаў Антон Уладзіміравіч, я рыхтаваўся і адкладваць выступленне не буду, няма Старшыні — ёсць Вярхоўны Савет.

Уласна, гаварыў Антон Юнцэвіч аб тым, што дэпутаты ведаюць. Але ж ведаць мала, настаў час крыкам крычаць аб сваіх бедах! Дэпутаты, у дадзеным выпадку ад Мінскай вобласці, у тым ліку і тыя, што займаюць высокія пасады, захоўваюць у парламенце занадта алімпійскі спакой. Пра гэта мы гаварылі пасля заканчэння пасяджэння, я пачуў такі выраз «маўчуны ад вёскі»...

Так яно і ёсць. Вёска аб сабе ў асобе дэпутатаў-аграрнікаў заяўляе вельмі ціха.

А падставы для трывогі сур'ёзныя. Урад слаба паважае прынятыя Вярхоўным Саветам законы. Антон Юнцэвіч меў на ўвазе закон аб прыярытэтным развіцці вёскі і прывёў такі канкрэтны прыклад: надбаўкі да цэн на трэці квартал урэзаны на 42 працэнты. З падобным «прыярытэтам» недалёка й да жабрацтва.

У шэрагу гаспадарак па 2—3 месяцы не выплачваецца заробак. А ўрад тым не менш хоча закупліваць сельгаспрадукты па фіксаваных, а прадаваць рэсурсы па свабодных цэнах.

Абласная арганізацыя аграрнікаў, па сведчанню Антона Юнцэвіча, заклікала ўсю сельскую гаспадарку байкатаваць кампанію заключэння дагавораў на будучы год па фіксаваных цэнах. На 23 лістапада намечаны абласны сход, на якім прадстаўнікі вёскі хацелі б заслухаць справаздачу аграрнай камісіі Вярхоўнага Савета.

Выступіў у цэлым Антон Юнцэвіч стрымана. Знаходзіліся добраахвотныя кансультанты з ліку высокапастаўленых дэпутатаў, якія раілі выкрасліць такія сказы, як: «Гарады растуць, хлебаедаў прыбаўляецца, а землябробы выміраюць як клас, як саслоўе». Чаго ж тут баяцца? Калі глядзець праўдзе ў вочы, то можна сказаць яшчэ больш жорстка. Паважаючы высокі сход, старшыня калгаса тактоўна даў ацэнку дэпутатам, маўляў, на будучых выбарах мы не застанемся абыякавымі, а выкарыстаем увесь арсенал сродкаў уплыву на выбаршчыкаў для падтрымкі тых кандыдатаў, якія змогуць канструктыўна працаваць на карысць усіх суайчыннікаў.

Вячэрняе пасяджэнне ўжо заканчвалася, пад заслону калега Юнцэвіча, дырэктар саўгаса, дэпутат Аляксандр Лукашэнка папракнуў прамоўцу ў тэндэнцыйнасці (што не зусім зразумела), але прызнаў слушнасць яго думак і прапанаваў пачаць ранішняе пасяджэнне з пастановы па закрытых дэбатах.

Так, тыя дэбаты даўно прайшлі, жыццё за апошнія дні прыбавіла цяжкасцей, а Вярхоўны Савет, як гэта ні горка, пакуль што застаецца ў ролі назіральніка, бо свайго рашучага слова не сказаў.

Таму раніцай у сераду апазіцыя прадпрыняла дэмарш. Гучалі нават ультыматыўныя патрабаванні: тэрмінова адклікаць Станіслава Шушкевіча з сустрэчы з прэзідэнтам Азербайджана і разглядаць сацыяльна-эканамічную сітуацыю, бо дзяржавы Прыбалтыкі засыплюць нас у бліжэйшы час непатрэбнымі ім рублямі (кошт каровы літоўцы, латышы ўжо давялі да 8—12 тысяч).

Факты наводзілі жах, але што мог зрабіць Вярхоўны Савет? Ніякіх глыбокіх праектаў пастаноў не было, дакумент, падрыхтаваны камісіяй Леаніда Козіка, да абмеркавання прызнаецца не адпавядаючым часу. Урад пакуль што маўчыць.

Апазіцыя скарыстоўвае сітуацыю, каб знайсці водгук у масах. Людзі ўжо гудуць, ім цяжка.

Нялёгка і палітыкам, пакуль што яны ў разгубленасці. Уладзімір Заблоцкі прапанаваў тэрмінова абмеркаваць валютныя пагадненні з балтыйскімі суседзямі. Чым сустрэла зала прапанову? Нястрыманымі крыкамі, маўляў, ужо адна дэлегацыя ездзіла туды. Так, ездзіла. Так, магчыма, яна недапрацавала. Дык што, ганьбаваць яе? Выказаць папрок і дзейнічаць далей.

Не час цяпер займацца палітычнымі баксёрскімі сутычкамі. Самым шматпакутным у гісторыі беларускага парламента стане законапраект аб прафесійных саюзах. Двойчы яго ўжо адхілялі. Кіраўнікі афіцыйных прафсаюзных структур крыўдзіліся, пагражалі дэпутатам небяспекай стачак, мітынгаў.

І вось учора спаборнічалі два праекты, народжаныя фактычна ў Вярхоўным Савеце. Спаборніцтва ішло нервова. Старшыня пастаяннай камісіі Аляксандр Сасноў, які працаваў над праектам Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, абвінаваціў Уладзіміра Станкевіча, аўтара альтэрнатыўнага праекта, у імкненні наогул праваліць прафсаюзнае заканадаўства.

Патаемныя спружыны, канешне, робяць сваю справу. Некаму не падабаецца партыйнае мінулае Уладзіміра Ганчарыка, некага карабацяць яго амбіцыйныя заявы, для некага прафсаюз на прадпрыемстве, як парушынка ў воку...

Вайна амбіцый скончылася тым, што зала дружна падтрымала законапраект Уладзіміра Станкевіча. Ён у першым чытанні прыняты, наперадзе—другое, больш скрупулёзнае.

**Мікалай ГАЛКО.**

---

Чорнае крыло Чарнобыля

## Дапамажыце!



**У вёсцы Гарадзішча Мінскага раёна, у дзіцячым санаторыі «Дружба» аб'яднання «Белміжкалгасздраўніца», знаходзяцца на лячэнні 96 дзяцей з анкалагічнымі захворваннямі. У асноўным — з Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Анеміі, лейкозы, рак шчытападобнай залозы...**

**НА ЗДЫМКУ:**

**● Круціцца рулетка — некаму пашанцуе.**

**(Працяг фотарэпартажу на 2-й стар.).**

---

Живи и помни

## «Погоня» и «Щит Давида»—рядом

**В Воложине на еврейском кладбище состоялась церемония провозглашения поминальной молитвы Эль Моле Рахамим.**

Участниками события, подготовленного Объединенным комитетом по сохранению еврейского исторического наследия и Литовским историческим центром, стали Председатель Совета Министров Республики Беларусь В. Кебич, председатель Комиссии по международным отношениям и внешнеполитическим связям Верховного Совета П. Садовский, народные депутаты Беларуси, деятели белорусской культуры и науки, представители духовенства.

Место церемонии определено не случайно. Воложин известен всему миру тем, что в 1803 году тут начала действовать иешива (еврейское учебное заведение), которая стала прототипом талмудистских учебных заведений в Западной Европе, Израиле и США. Присутствовавшие возложили цветы к могилам, приняли участие в закладке первого камня восстанавливаемой ограды кладбища. Участники церемонии говорили о необходимости приведения в порядок исторического наследия всех народов. Большое впечатление на присутствующих произвело выступление народного депутата Беларуси Л. Борщевского на идиш—еврейском языке.

**Яков ГУТМАН.**

---

Репортер узнал подробности

## Прибалт мне друг, но...

Итак, у нас увеличены закупочные цены на скот. Так отреагировал Совмин республики на неконтролируемый «партизанский» вывоз белорусских буренок и свиней в соседние государства Прибалтики.

Закупочные цены на крупный рогатый скот увеличены в среднем на 25,8 процента, свиней — 27 процентов, овец — 35,4 процента. И хотя новые цены все еще отстают от прибалтийских, есть надежда, что вкупе с усилением контрольно-пропускного режима на границах с Литвой и Латвией потребительский рынок в республике стабилизируется.

Одновременно для предотвращения вывоза мясо-молочной продукции за пределы республики облисполкомам и Минскому горисполкому поручено ввести талонную систему реализации их населению.

Отпускаются на «волю» розничные цены на сигареты с фильтром I и II классов; будет расширен перечень винно-водочных изделий для реализации в коммерческих магазинах — для покрытия разницы между новыми оптовыми и старыми розничными ценами на мясо и мясопродукты.

**Юрий НОЯРОВИЧ.**

---

Погляд публіцыста

## А калі зноў утворыцца ГКЧП?

Ці можа быць дзяржава без арміі?

«Не», — пераконвае гістарычны вопыт і сцвярджаюць вопытныя палітыкі.

«Можа» — насуперак усялякай логіцы зноў гучыць з Крамля. Днямі тут дасягнута дамоўленасць, што «суверэнныя рэспублікі-дзяржавы» будуць мець агульную армію. А каб занадта моцна не сумавалі па ўласным войску, дык можна пазабаўляцца нацыянальнай гвардыяй.

Мудрацы здавён прыкмецілі: у каго розуму не шмат, ганарлівасць аж выпірае. Калі яны бачаць, што пярэднія месцы ўжо разабраны, а заднія займаць вельмі не хочацца, тады выкідваюць нешта звышарыгінальнае.

Вось ужо больш за семдзесят гадоў мы выкідваем такое, што свет ад смеху за бакі хапаецца. Апошні падобны тэзіс: суверэнная дзяржава з'яўляецца часткай другой дзяржавы і абыходзіцца без арміі.

Што такое гвардыя? Гэта пара тысяч вайскоўцаў для абслугоўвання розных рытуалаў: ганаровая варта з выпадку прыезду высокага госця, суправаджэнне кіраўніка дзяржавы і г. д. Падобныя рытуалы — рэч прыгожая. Але мяне моцна турбуе адно пытанне: «А калі ў Маскве зноў утворыцца ГКЧП? Што тады будзе?» Не трэба быць вялікім стратэгам, каб здагадацца, што ад нашай суверэннасці і свабоды застануцца адны «рожкі да ножкі». Бо што нейкія дзве тысячы гвардзейцаў, няхай сабе і з пёрамі на капелюшах, супраць танкаў і авіяцыі?

«Ды не, новага ГКЧП не будзе, — пераконвае нас Масква. — Армія цяпер не пойдзе супраць народа». Але ці не напамінае ўсё гэта ўгавор казлянят з вядомай казкі адчыніць дзверы?

Не дае спакою і яшчэ адно пытанне: «Чаму цэнтр баіцца рэспубліканскіх армій?» Я разважаю так. Канешне, атамная зброя няхай будзе ў адных руках. Няхай, у рэшце рэшт, усё будзе ў арміі, як ёсць: агульная форма, узбраенне, статуты і г. д. Акрамя двух момантаў: нашы хлопцы служаць у Беларусі, а замест камандуючага войскамі акругі — наш міністр абароны, які зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Беларусі. Разам міністры абароны рэспублік могуць утварыць Савет калектыўнай абароны. Калі хто памкнецца супраць нас, тады калектыўна і дадзім адлуп.

Ну што тут кепскага? Праўда, пры такім парадку будзе бяссільны любы ўсесаюзны ГКЧП. Ці не таму гэты варыянт не да спадобы Крамлю? Яму, відаць, не надта падабаецца суверэнітэт рэспублік і вельмі хацелася б мець на ўсялякі выпадак які дубец, каб можна было прыструніць непаслухмяных. На словах жа пужаюць вялікімі расходамі на армію. Нібыта цяпер нас не абдзіраюць на яе ўтрыманне.

Нават казляняты, перш чым адчыніць дзверы, сумняваліся. Чаго не скажаш пра некаторых нашых суайчыннікаў. Няўжо іх нічому не вучыць гэта вядомая казка? А можа, проста вывучылі яе на траяк?

Трэба, нарэшце, гаварыць праўду. Беларусь — дзяржава ці не? Калі дзяржава, дык яна павінна мець усе неабходныя атрыбуты дзяржаўнасці, армія сярод іх — адзін з важнейшых. Калі не, дык і не трэба тлуміць галаву размовамі аб суверэнітэце, а так прама і сказаць: хлопцы, трэба яшчэ падрасці. Бо як сказаў амаль тысячу гадоў назад таленавіты паэт Усходу Кабус: няма большай бессаромнасці, чым выдаваць за праўду сцвярджэнне, ілжывасць якога добра вядома.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

---

Скоро!

## Это вам не кольцемет какой-нибудь!

**Кажется, организаторам и ведущим «студенческой тусовки» в минском Дворце культуры профсоюзов, подготовка к которой идет полным ходом, удастся провести нешаблонное мероприятие.**

Приблизительно тысяча зрителей с приблизительно тысячей различных вкусов смогут найти во Дворце развлечение по душе. Скажем, поучаствовать в сеансе одновременной игры «в дурака» — когда «дураками» оказываются сразу несколько человек, это не так обидно. Или влезть в шкуру давно умершего динозавра и подумать о бренности всего земного. Подойти к «свободному» микрофону в кафе и объяснить всем, что он о них думает, вступить в любую партию — а в партаттракционе их будет даже больше, чем в жизни, — принародно порвать билет и вступить в другую...

Остается только добавить, что КВН, конкурс дискотек, фотоконкурс, видеопоказ и так далее случатся в ночь на Международный день студентов—с 16 на 17 ноября.

**Ирина ФЕДОРОВА.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Чорнае крыло Чарнобыля

# Дапамажыце!





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Аздараўленне ў санаторыі — гэта самападман, паўмера. Бо дзеці потым зноў вернуцца ў зону. Замест бессэнсоўнай траты грошай на «грабавыя» і добраўпарадкаванне пасёлкаў у зоне неабходна тэрмінова будаваць жыллё ў сапраўды чыстых раёнах. Прамаруджванне — злачынства!

**Міхась ЖЫЛІНСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ:**

**● Да Кацечкі павінен прыйсці тата, і дзяўчынкі хочуць, каб яна была прыгожай.**

**Каці 8 гадоў. Яе двойчы аперыравалі. У красавіку 1986 года яна была ў вёсцы ў бабулі, піла малачко...**

**● Асноўны элемент аздараўлення — экалагічна чыстае і вітамінізіраванае харчаванне. Шкада толькі, што дзядзі з-за мяжы рэдка прыязджаюць. А можа, мы з вамі зможам ім дапамагчы? Дзецям патрэбны мёд, арэхі, ікра, чарнасліў, сокі з мякаццю і г. д.**

**Фота аўтара.**

## А што на Уздзеншчыне?

### «Волат» шукае не рамантыкаў...

Найбольш работы ў гэтыя дні, відаць, у супрацоўнікаў аддзела кадраў сумеснага прадпрыемства «Волат». Хоць у мясцовым цэнтры занятасці насельніцтва афіцыйна пакуль што зарэгістраваны адзінкі беспрацоўных, тых, хто шукае работу, не атрымлівае ў сучасны момант ні зарплаты, ні дапамогі па беспрацоўю, — у раёне каля сотні.

І ў гэты час «Волат» дае аб'яву ў раённай газеце аб наборы на кантрактнай аснове інжынерна-тэхнічных работнікаў і рабочых. Больш таго — з перспектывай навучання пэўнай спецыяльнасці за мяжой. Ды не дзе-небудзь, а ў Злучаных Штатах Амерыкі. Вось і рынуліся аматары доўгага рубля, канверсаванай валюты і проста шукальнікі рабочых месц у «Волат». Конкурс — не параўнальны з наборам і ў мясцовае ПТВ-210, і нават у сталічныя БДУ ці БПІ — на 40 вакансій ужо атрымана каля 200 заяў і аўтабіяграфій.

### Прадпрымальнікам у нас заўжды дарога...

Новыя формы гаспадарання, магчымасці для прадпрымальніцкай дзейнасці набіраюць у раёне ход сталічнымі тэмпамі. На 16 калгасаў і саўгасаў у выканкаме раённага Савета народных дэпутатаў зарэгістраваны 21 кааператыў, 18 малых прадпрыемстваў.

Праўда, большасць з іх сканцэнтраваны бліжэй да райцэнтра. А ёсць і такія, чые работнікі сёння наогул жывуць і працуюць па-за межамі раёна, зарэгістраваўшыся раней у нашым райвыканкаме. І яны прыносяць сякі-такі прыбытак у раённую казну. Пры дэфіцыце бюджэту раёна за 9 месяцаў гэтага года амаль у два мільёны рублёў ад кааператываў і МП паступіла ў раён за такі ж перыяд 930 тысяч рублёў. Аднак пакуль не скажаш, што гэта значна адбілася на паляпшэнні ўмоў жыцця жыхароў райцэнтра і навакольных вёсак.

### З кабінета—у сад. Хто наступны?

Па ўласнай ініцыятыве пакінуў утульны кабінет намесніка начальніка па эканоміцы Уздзенскага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання А. Л. Лятун — апошні, відаць, з сакратароў партыйнай арганізацыі гэтай установы.

Праўда, памочнікаў у старшыні ўпраўлення В. М. Сікорскага не паменшала. Некалькі раней стаў яго намеснікам «па агульных пытаннях» былы другі сакратар райкама КПБ Я. А. Шкель.

Але гэтыя дзве падзеі нікольні не ўзаемазвязаны паміж сабой. Сваё рашэнне Антон Лукіч прыняў яшчэ раней, прыйшоўшы да высновы, што большую карысць сельскай гаспадарцы раёна ён зможа прынесці не папяровай работай, а непасрэдным удзелам у сельскагаспадарчай вытворчасці. У саўгасе «Уздзенскі» для яго знайшлося месца аграномa-агароднінавода. У планах спецыяліста — давесці да ладу безнаглядны, можна сказаць, саўгасны сад, каб не страты, а прыбытак прыносіў ён у касу гаспадаркі.

### Вяртанне да «Памяці»

Больш як паўгода нічога не было чуваць у раёне пра работу камісіі па збору матэрыялаў для стварэння раённай кнігі «Памяць». Галоўны «штаб» камісіі да вядомага часу знаходзіўся ў ідэалагічным аддзеле райкама КПБ. Ды, пэўна, былі ў адказных таварышаў у апошнія месяцы справы куды больш важныя, чым напісанне гісторыі раёна, бо спісы загінуўшых воінаў-землякоў, іншыя матэрыялы на гэту тэму раённая газета спыніла друкаваць у пачатку года.

Нядаўна на пасяджэнні выканкама райсавета перагледжаны састаў камісіі, яе работу ўзначаліла намеснік старшыні райвыканкама Н. Я. Шыянок. Завяршыць работы па стварэнню кнігі «Памяць» запланавана ў 1994 годзе, калі будзе адзначацца 500-годдзе з дня заснавання Узды. Будзем спадзявацца, што цяпер гэтая работа актывізуецца.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ.**

На такіх зямля трымаецца

## Жыве ў Задор'і садоўнік

**Восенню і вясной у вёску Задор'е Лагойскага раёна часта наведваюцца тыя, хто хоча пасадзіць ля свайго доміка яблыньку, грушу, сліву, вішню і іншыя пладовыя дрэвы. І пытаюць яны ў першага сустрэчнага звычайна так:**

**— Чуў, што ў Задор'і жыве садоўнік, у якога можна набыць саджанцы пладовых дрэў. Вось толькі прозвішча яго не ведаю.**

— Вам трэба звярнуцца да Віктара Паўлавіча Адамовіча, — адкажа любы прахожы.

У Задор'е Адамовіч з сям'ёй пераехаў каля трыццаці гадоў таму назад. Купіў невялікую хатку, затым узяў крэдыт і пачаў будаваць дом. А побач з ім пачаў садзіць пладовыя дрэўцы.

Сад у жыццё Віктара Паўлавіча ўвайшоў яшчэ ў дзяцінстве, па сямейнай спадчыне ад дзеда Гаўрылы, які жыў на Вілейшчыне, паблізу Даўгінава. Дзед быў садоўнік-вопытнік: ён высяваў насенне груш і яблынь, вырошчваў саджанцы-дзічкі і пасля прышчэпліваў іх чаранкамі лепшых гатункаў пладовых дрэў.

Гэтую навуку ўжо ў малым узросце пераняў і ўнук.

На Вілейшчыне ў тыя далёкія гады восенню праходзілі кірмашы, дзе вяскоўцы прадавалі садавіну, агародніну, мёд, бараніну, бульбу, збожжа. Вельмі любіў хадзіць на іх з дзедам і Віктар. Там яны падоўгу затрымліваліся ля вазоў, на якіх ляжалі яблыкі і грушы, куплялі найбольшыя з іх, і, прынёсшы дадому, разразалі напалам, асцярожна выбіралі насенне і садзілі яго ў зямлю ў невялічкім гадавальніку.

Калі дзеда не стала, яго садоўніцкую справу пачаў працягваць унук.

— Той, хто вырасціць хоць адно дрэва, не марна пражыве жыццё, — казаў яму бацька.

І вось ужо больш двух дзесяткаў гадоў пладаносіць сад, пасаджаны ўмелымі рукамі Віктара Паўлавіча ў Задор'і.

Сёлетні год, праўда, выдаўся небагатым на садавіну. І ўсё ж у садзе Адамовіча, нібы конаўкі, віселі грушы сартоў «казахстанскія», «бэры слуцкія», «расашанская прыгожая», яблыкі «стойкія», «бананавыя» і многія іншыя. Растуць у садзе, акрамя яблынь, груш, слівы і вішні, чарнаплодная рабіна, абляпіха, вінаград, войлачная вішня, чарэшня, кітайскі лімоннік, японская айва.

Віктар Паўлавіч падтрымлівае сувязь з многімі вядомымі садоўнікамі, работнікамі Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і плодаагародніцтва. Ён сам мае невялікі плодагадавальнік, у якім расце каля двухсот прышчэпленых груш і яблынь. З гэтага гадавальніка пачаліся сады не аднаго дзесятка людзей, што жывуць у Задор'і, Лонве, Харошым, Плешчаніцах і іншых населеных пунктах раёна.

Добра адносяцца да садоўніка людзі. Але лепш за ўсіх — унукі. Як яны радуюцца, калі з бацькамі прыязджаюць да дзядулі ў госці. Тут для іх ласункаў хоць адбаўляй. І хто ведае, можа, пяцігадовы Вадзім ці паўтарагадовы Віталь у будучым таксама стануць садоўнікамі і прадоўжаць справу свайго дзеда.

**Іван СІЛЯЎКА.**

Лагойскі раён.

Радыёперахоп

### «Беларусы скрыжоўваюць шпагі...»

«Беларусы скрыжоўваюць шпагі з французскім экспертам. Адпаведна некаторым каментарыям у рэспубліканскай рэсе вядомы французскі эксперт па міжнацыянальных праблемах у СССР Элен Кар'ер д'Анкос глыбока зняважыла нацыянальную годнасць беларусаў. «Народная газета», орган Вярхоўнага Савета Беларусі, у нумары за 25.09.91 г. (артыкул А. Майсені «Алло, Париж..? Вы не правы») пратэстуе супраць яе артыкула, які быў надрукаваны ў «Фігаро» (28.08.91 г.) і ў якім д'Анкос сцвярджае, што беларуская нацыя з гістарычнага пункту гледжання не існуе, што яе мова была штучна створана савецкімі «вождями» ў 20-х гадах і што Беларусь як быццам выставіла тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседзяў, а гэта можа прывесці да кровапраліцця».

(Радыё «Свабода»).

## Новости Балтии

### Литва в Интерполе

**Из Уругвая пришло известие, что Генеральная ассамблея Интерпола на 60-й сессии опять приняла в свои ряды Литовскую республику.**

Результаты голосования были таковы: за — 93, против — 3 и воздержалось 2 государства. В Интерпол в тот же день были приняты Монголия, Вьетнам и Албания. Заявления о принятии в Интерпол двух других балтийских стран пока отложены.

### Детектив с... «Ваней Королевым»

**На днях через весь Вильнюс проехал караван с контейнерами. С обеих сторон его охраняли вооруженные люди.**

Официальные лица отказались отвечать на вопрос о содержании этих контейнеров, хотя намекали, что это просто партия новых рублей. Но даже непосвященному человеку видны были эмблемы морской почты на больших железных ящиках. Неужто какое море начало шуметь между Вильнюсом и Москвой?

Но вскоре начали просачиваться сведения, что 14 контейнеров прибыли в портовый город Клайпеду из Норвегии, доставило их судно «Ваня Королев». В контейнерах — партия литовских монет (центов) и дипломатические паспорта Литовской республики.

### Очереди больше нет

**Очереди, чтобы проехать в Польшу, на КПП в Лаздияй больше не существует.**

Дабы вообще избавить туристов от пограничных мучений, в МИДе Литовской республики подписано литовско-польское соглашение об открытии еще двух таких пунктов.

По этому договору будут открыты одна железнодорожная магистраль и пункт в Калварияс — для автомобилей.

### Не грех подставить «бока»!

**На прошлой неделе Вильнюсское государственное троллейбусное предприятие подписало контракт с рекламной фирмой из США.**

Теперь 70 процентов вильнюсских троллейбусов в ближайшие пять лет отдадут свои «бока» рекламным художникам этой фирмы. Одна реклама на боку троллейбуса будет стоить для американцев 20 долларов в месяц. По подсчетам, такая сделка будет приносить троллейбусному предприятию ежемесячно около 4 тысяч долларов США. Для сопоставления: раньше литовское рекламное агентство платило за один «бок» 30 рублей в месяц.

### Чужие здесь сидеть не будут

**Органы правосудия балтийских государств решили освободиться от бремени союзных законов довольно гуманно.**

Как стало известно, в ближайшее время в Латвии будет объявлена амнистия всем заключенным, которые являются гражданами других республик бывшего Союза.

Своеобразно отреагировали на эту весть заключенные в Эстонии. Они также потребовали амнистии под тем предлогом, что были осуждены в Эстонской ССР, а теперь провозглашена Эстонская республика. Министр внутренних дел Эстонии О. Ланьяв предполагает, что возможна частичная амнистия и освобождение некоторых категорий заключенных.

**Модестас КРУКАУСКАС,**
**соб. корр. «Народной газеты» по странам Балтии.**

### На дзядзьку спадзявайся...

Чарговы візіт у чарнобыльскую зону зарубежных свяціл — на гэты раз наведалі японскія вучоныя на чале з прафесарам Касака — не ўнёс яснасці ў растрывожаныя розумы насельніцтва, якое пацярпела ад радыяцыі. Як і папярэднія шматлікія дэлегацыі МАГАТЭ, Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, Міжнароднай лігі Чырвонага Крыжа, госці з Краіны Узыходзячага Сонца далікатна ўхіліліся ад адказаў на пытанні, якія датычаць магчымасці пражывання на заражанай радыяцыяй тэрыторыі, а абышліся агульнымі разважаннямі і рэкамендацыямі.

(БелТА).

Взгляд

# ОНИ СНОВА ВЫШЛИ. НА ЭТОТ РАЗ ИЗ ПОДПОЛЬЯ

**Нет, пусть меня не убеждают, что КПСС отстранена от власти, покинута, сирая, собственным Генеральным секретарем, загнана в подполье. Ее способность к мимикрии поистине уникальна, а решимость в достижении целей сметает любые преграды — и моральные и правовые. К тому же за три четверти века своего всевластия она создала для себя прочную социальную базу, воспитав «нового человека» — существо деклассированное, деэтнизированное, взращенное и взлелеянное на гидропоне босяцкого интернационализма. Так что праздновать победу над коммунистическим тоталитаризмом время еще не приспело, и сакраментальный ленинский вопрос «кто кого?» далеко не решен. Если не в исторической, то, по крайней мере, в ближайшей перспективе.**

Очухавшись от шока, вызванного августовским конфузом, этот триединый бог, олицетворяющий собой «ум, честь и совесть нашей эпохи», не прочь вновь перехватить инициативу. Еще не смолкло эхо белорусского парламента, принявшего, наконец, многострадальный закон о частной земельной собственности, как тут же последовал залп главного калибра — газеты «Правда». В ее номере за 18 октября с. г. опубликован материал О. Степаненко «Вилами политику не делают», в котором, как дважды два — четыре, доказывается, «почему белорусский крестьянин стал рабом земли». Разумеется, в обычном правдинском стиле, т. е. с непременными ссылками на мнение «широких масс трудящихся». На сей раз в этой роли «трудящихся масс» выступают Союз аграрников Беларуси, профессор БГИНХ В. Танкович, директор экспериментальной базы «Ветринская», он же народный депутат Республики Беларусь А. Кузьменков.

«Самое крупное в истории человечества мирное разрушение села», — сокрушается профессор Танкович. «Общая сумма некомпенсируемых расходов достигла 4 млрд. рублей», — вторит ему Союз аграрников Беларуси. «...По сельским делам, — многозначительно итожит корреспондент «Правды» О. Степаненко, — можно судить об основных пороках перестройки».

Что ж, все верно. Не ясно другое: что нового усмотрели тут «командиры производства» и их адвокаты? Грабить село — это ведь наша давнишняя «революционная традиция», и разговоры о «ножницах» ведутся уже седьмой десяток лет, с конца 20-х годов. О более раннем периоде, когда большевики еще только «вносили классовую борьбу в деревню», я умолчу. За счет ограбления села мы проводили индустриализацию. За счет крестьянства восстанавливали хозяйство в послевоенные годы. Можно ли было сомневаться, что и за «перестройку», которую Н. Рыжков и В. Павлов проводили «в том виде, как она была задумана», т. е. в рамках столь любезного Союзу аграрников «социалистического выбора», расплачиваться заставят все того же многострадального крестьянина? Поистине, нет ничего нового под солнцем, а под нашим «социалистическим»— тем паче. Но причем тут, спрашивается, новая аграрная политика Верховного Совета и правительства Беларуси?

Слушая «командиров села», трудно отрешиться от мысли, что из всего категориального богатства экономической науки уважаемые аграрии хорошо усвоили лишь одну категорию: «дай». Неужели не ясно: пока государство будет «сидеть на ресурсах и финансах», никакого «приоритетного развития села» не получится? Ну, подняли закупочные цены на сельхозпродукцию на 18—40 процентов, а что толку? Тут же в несколько раз были взвинчены цены на промышленные товары. И эта карусель может продолжаться до греческих календ.

Проскальзывает, правда, и здравая мысль: надо перестать душить село госзаказом, т. е. прекратить продразверстку. О, наивные люди! Неужели наши аграрии никогда не слыхивали старой житейской мудрости: платит тот, кто музыку заказывает. А музыку заказывает государство, оно — монопольный собственник земли. Пока не будет ликвидирована эта его монополия на землю, крестьянина мы из «крепости» не вызволим. И клянчить кредиты на закупку зерна у наших «классовых врагов» тоже не перестанем.

Аграрный сектор — последний рубеж бюрократии. Ибо в тот самый момент, когда государство лишится монопольного права на землю, в тот самый момент наша родная командно - распределительная система утратит последнюю власть... До тех пор она может еще десятки лет агонизировать, разлагаться, отравляя своим трупным ядом общественный организм. И бюрократия это прекрасно понимает. Вот почему пускается во все тяжкие, чтобы не дать крестьянину землю.

Уже можно считать доказанным, что неэффективность социалистической экономики — явление не преходящее, не случайное. Она изначально заложена в способе производства, базирующемся на так называемой общественной собственности на средства производства. Наши обществоведы вкривь и вкось цитировали известный афоризм Маркса: изменяя природу, человек изменяет свою собственную природу. Но никто при этом не дал себе труда вдуматься: а почему, собственно, Маркса не устраивала «природа человека»? Почему ему непременно нужно было ее «изменить»? А ларчик открывается в общем-то совсем не трудно. Маркс понимал: нормальный человек в будущей, прогнозируемой им социалистической экономике работать производительно не будет. И не случайно поэтому мы три четверти века воспитывали «нового человека», т. е. человека, труд которого стимулировался бы не личным интересом, а «социалистической сознательностью». Как и следовало ожидать, ничего из этой бредовой идеи не получилось. Не захотел гомо советикус «горбиться» на родное социалистическое государство и его многочисленных друзей со всего земного шара. Или, говоря на марксистско-ленинском новоязе, труд так и не стал для него «первой жизненной потребностью».

Но даже в этой антигуманной, паразитической экономической системе аграрный сектор был поставлен в особое положение. Причем сделано это было с иезуитским коварством: путем придания ему статуса особой формы социалистической собственности — не общенародной, а колхозно-кооперативной. На деле это означало, что, выметая под метелку все производимое селом, государство не несло, однако, перед ним ровно никакой экономической ответственности. Как живет крестьянин, что он ест и ест ли вообще, каковы условия его труда и быта — забота не государства, забота самих колхозов. И, право же, мне вовсе не кажется циничной такая, например, постановка вопроса: кому, скажем, в конце 40-х—начале 50-х годов жилось хуже — узникам ГУЛАГа или узникам колхозов?

Конечно, ситуация с тех пор изменилась. Но тенденция сверхэксплуатации села осталась. Поэтому выход один: коренным образом изменить характер экономических отношений на селе, чтобы крестьянин стал, наконец, полноправным хозяином на земле, перестал быть наемным работником государства. Но именно этому-то наша чиновная охлократия и противится всеми возможными способами.

Хранители «социалистических ценностей» усиленно разрабатывают сюжет, что земля-де не может быть поставлена в ряд с другими средствами производства. Она, как воздух, есть нечто Богом данное, в ней не воплощен труд человека, а потому она не имеет стоимости. По этой причине она не может быть товаром, не может быть объектом купли-продажи. Земля — всенародное достояние и таковой должна оставаться.

Я затрудняюсь ответить, чего тут больше — экономической неграмотности или морального цинизма. Во-первых, в первозданной природе мы уже давно не живем. Мы живем в очеловеченной (так и хочется сказать: обезображенной человеком) природе. Земля наша пропитана потом и кровью поколений крестьян. Говорить, что в ней не воплощен труд человека, что она не имеет стоимости, может только человек, родившийся на булыжной мостовой и сформировавший свои представления о земле на искусстве «социалистического реализма». Во-вторых, тезис об общенародной собственности — не более чем один из фантомов марксистско-ленинской идеологии. И то, что мы лукаво именуем общенародной собственностью, на самом деле есть частная собственность государства.

Вопрос, следовательно, должен быть поставлен и решен четко и однозначно: чему отдать приоритет — государству или человеку? Намерены ли мы оставить землю в собственности надстроечного института (т. е. в сущности в руках чиновничьего аппарата), который, ничего не производя сам, будет, однако, и далее распоряжаться всем, или, напротив, передадим в собственность тем, кто на ней работает, множа общественное достояние? Чего-то третьего тут нет и быть не может. Все эти «акционерные объединения» и иные «ниши», которые так умиляют корреспондента «Правды», — ниши не для крестьянина, а для бюрократии. Так же, как и «акционерные общества» и «концерны», созданные на базе вчерашних министерств и ведомств.

Оговорюсь: право частной собственности на землю вовсе не означает, что нужно немедленно волевым порядком расформировать колхозы и совхозы, как это нам «кое-кто подбрасывает». Не говоря уже о том, что насильственная деколлективизация была бы ничем не лучше насильственной коллективизации, она в нынешних условиях просто невозможна. Выдвигать сегодня такое требование может либо дурак, либо провокатор. Речь о другом: о **праве** каждого человека или коллектива людей приобрести землю в индивидуальную или коллективную собственность. Вместе с тем государство должно создать условия, чтобы это **юридическое право** было подкреплено реальной **экономической возможностью.** «Возвратить долг деревне» как раз и означает прежде всего создание таких условий. Именно это, а вовсе не то, чтобы зарыть очередные миллиарды в колхозно-совхозную землю.

Думаю, что мы не до конца осознаем и экономические последствия проводившейся нами аграрной политики. Наш земельный фонд в катастрофическом состоянии. И дело не только в элементарной расточительности, когда ежегодно из производственного оборота выводятся десятки и сотни гектаров земли. Главное — культура землепользования. Наша сельскохозяйственная техника как будто специально конструируется для того, чтобы калечить землю. Количество химикатов, вносимых на один гектар пашни, превышает всякие допустимые нормы. Посевной клин отравлен до такой степени, что продукция, выращиваемая на нем, зачастую опасна для здоровья. Да и просто жить на такой земле скоро станет небезопасно. Ничего подобного настоящий хозяин себе, конечно же, не позволит. Это еще один аргумент в пользу того, что с нашей «ничейной» земельной собственностью пора кончать. Ибо речь идет об изначальном: физическом выживании народа. И это отнюдь не преувеличение.

О правовой стороне вопроса. Председатель колхоза имени Суворова Витебской области О. Володько, на которого с удовольствием ссылается О. Степаненко, считает, что последнее слово в вопросе о том, дать или не дать тому или иному крестьянину землю, должно оставаться за коллективом. Он убежден: «В этом высшая демократия и защита прав личности». Я не в претензии на хозяйственника — где ему вникать в нюансы права. Но корреспондент «Правды» их знать обязан. И не смешивать нормы права с «нормами партийной жизни». Это ведь только по уставу КПСС подчинение меньшинства большинству — верх демократии и справедливости. Нормы правового государства декретируют другое: есть такие права человека, на которые не вправе посягать никто — ни коллектив, ни даже само государство. К числу этих прав относится и право собственности.

Не могу в заключение обойти молчанием выпад в адрес Белорусской селянской партии и ее руководства. На одной из сессий Верховного Совета республики депутат А. Кузьменков уже пообещал мне как члену БСП надел земли. Следуя его логике, я должен был бы, по-видимому, предложить ему как члену КПСС угол в «светлом здании коммунизма». Увы, я лишен возможности ответить любезностью на любезность: «светлое здание коммунизма», возводимое нами долгие десятилетия, оказалось обычной «незавершенкой».

Эту же тему «некомпетентности» разрабатывает со ссылкой на А. Кузьменкова и О. Степаненко, подсчитывая количество крестьян в БСП. Хотелось бы задать корреспонденту коммунистического издания встречный вопрос: сколько пролетариев числилось в исполкоме «Союза коммунистов» и какую рабочую специальность имел «вождь мирового пролетариата» Ленин— слесаря или токаря? Могу, однако, успокоить и А. Кузьменкова и О. Степаненко: в сельском хозяйстве и аграрной политике руководство БСП смыслит, по крайней мере, больше, чем Е. Лигачев, который, как известно, «курировал» в последние годы эту отрасль по линии Политбюро ЦК КПСС и обнаружил при сей счастливой оказии в Беларуси коммунизм. То ли в Витебской области, то ли на Могилевщине.

Видимо, корреспондент «Правды» не вдумался как следует в название своей же собственной статьи. А в нем заключена большая правда: вилами политику не делают. Политику принято делать головой. Разумеется, если таковая есть в наличии.

**Валентин АКУЛОВ,**
**член Центральной Рады Белорусской селянской партии, доктор философских наук, профессор.**

